# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

22.11.12-28.11.12 г.



**МЕНШЫ РЭЙТЫНГ**



ТОЛЬКІ Ў ЯНУКОВІЧА

СТАР. 4–5

**ЯКІХ МІНІСТРАЎ**

МЯНЯЮЦЬ ЧАСЦЕЙ УСІХ



СТАР. 6-7


# ПРЫВІТАННЕ З 1937 ГОДА

Прэзентацыя новага старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Валерыя Вакульчыка суправаджалася феерычнай прамовай Аляксандра Лукашэнкі.



*І слесар пайшоў цяпер зусім нетыповы*

## ЗВАРОТНАЯ РАКІРОЎКА НЕ АДБУДЗЕЦЦА

Нагадаем, што папярэдні кіраўнік спецслужбы Вадзім Зайцаў быў зняты з пасады 9 лістапада. Нагодай для гэтага сталі самазабойства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака і "шэраг іншых пытанняў, якія патрабавалі пільнага расследавання".

Выконваючым абавязкі старшыні камітэта быў прызначаны Леанід Мальцаў, які ачольвае Раду бяспекі. Дзесяць дзён назад ён адзначыў, што, калі расследаванне выявіць кампетэнтнасць Вадзіма Зайцава, апошні вернецца на сваю пасаду.

Аднак вельмі хутка высветлілася, што зваротная ракіроўка не адбудзецца. Лукашэнка абвінаваціў Зайцава ў стварэнні *"нездоровой морально-психологической обстановки в отдельных подразделениях системы КГБ"*. На думку кіраўніка Беларусі, гэта было выклікана *«недостатками в организации как кадровой, так и идеологической работы, а также перекосами при обеспечении собственной безопасности»*.

Лукашэнка таксама паведаміў пра тое, што на пачатку года даваў Зайцаву распараджэнне перагледзець стаўленне да супрацоўнікаў. *«Однако, к моему сожалению, должные выводы сделаны не были. Более того, некоторые проблемы еще больше обострились, стали приобретать негативный общественный резонанс»*, — наракаў ён.

Пасля такіх заяў можна было зрабіць выснову, што звольненага шэфа дзяржбяспекі нічога добрага не чакае. Аднак Лукашэнка хоць і канстатаваў, што *«была масса недостатков, которые неприемлемы для КГБ»*, аднак потым адзначыў, што не ўсё дрэнна было ў камітэце пры Зайцаве: *«Зайцев без работы не останется. И никто его из страны не собирается выпихивать»*.

А вось тры чвэрці чэкістаў могуць апынуцца на вуліцы. Нечакана Лукашэнка раззлаваўся на тых супрацоўнікаў КДБ, якія *«хотели бы с прохладцей, более вольно себя чувствовать, не ходить на работу»*. А ў гэты час над краінай, паводле слоў яе кіраўніка, навіслі хмары. Ён распавёў пра свае неверагодныя намаганні, *«чтобы сдержать страну, чтобы ее на куски не порезали и не растащили»*.

## «ЗАЙЦЕВ В КВАДРАТЕ»

*— Надо предпринимать максимум усилий, чтобы создать целостность, неприкосновенность и безопасность нашей страны,* — заявіў Лукашэнка. — *Вот для таких сотрудников мы готовы создать любые условия. Пусть их будет не 12 тысяч, не 10 тысяч и даже не 6 тысяч человек. Пусть их останется 3 тысячи, но это останутся преданнейшие государству люди. С такими Вакульчик будет работать. Все остальные куда хотят, пусть уходят.*

Валерыя Вакульчыка кіраўнік Беларусі ахарактарызаваў як «Зайцева в квадрате», но без лишних заносов, без головотяпства». І скончыў досыць дзіўным рэзюмэ: *«Запомните, у нас немало противников и врагов. С ними надо беспощадно бороться. Но надо доверять тем людям, которые ведут эту борьбу, и не надо априори в каждом видеть плохого человека»*.


*Заканчэнне на стар. 3*


**НАВІНА**

## ПРАТЭСТ З ТРАКТАРАМ "БЕЛАРУС"

**Сяляне Балтыі атрымліваюць ад ЕС 110 долараў субсідый на гектар, хочуць больш, піша "Наша ніва".**

Нязвыклая акцыя пратэсту праходзіць сёння перад будынкам Еўрапарламента ў Брусэлі. Пратэстуюць сяляне краін Балтыі.

Яны патрабуюць больш справядлівага размеркавання субсідый Еўрасаюза, прызначаных фермерам. Адным з галоўных «удзельнікаў» акцыі будзе трактар «Беларус», які прыехаў у Брусэль з Таліна.

Пікет прымеркаваны да саміта краін Еўрасаюза па пытаннях бюджэту ЕС. У ім удзельнічаюць і кіраўнікі трох краін Балтыі. Таму да пратэсту сялянаў маюць далучыцца прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце і прэм'ер-міністр Латвіі Валдзіс Дамброўскіс.

Цяпер субсідыі налічваюцца ў залежнасці ад сярэдняга даходу жыхароў той ці іншай краіны. У выніку латвійскія сяляне атрымліваюць самыя нізкія субсідыі ў ЕС — не больш за 115 долараў за гектар, тады як сярэдні паказчык па ЕС складае каля 320 долараў за гектар.

Латвія патрабуе ад ЕС устанавіць мінімальны памер прамых плацяжоў на ўзроўні 80% ад сярэдняга па Еўропе ўжо з 2014 года.

Для параўнання: беларускія сяляне атрымліваюць датацыі толькі з нацыянальнага бюджэту.

# ШТО ЗНАЧЫЦЬ БАТЭ ДЛЯ БЕЛАРУСІ?

Пасля двух феерычных перамог над лепшымі футбольнымі клубамі Еўропы ў Лізе чэмпіёнаў барысаўскі клуб “БАТЭ” прайграў 3 гульні запар. І адразу патрапіў пад жорсткі шквал крытыкі з бокі шматлікіх аматараў і каментатараў. Наколькі ён справедлівы, і чым стаў для нашай краіны “БАТЭ”, разбіралася “Тут і цяпер”.



*“БАТЭ” стаў больш чым футбол*

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ, ПІСЬМЕННІК:**

### “БАТЭ ПРАЦУЕ НА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ”.

— Безумоўна, гэты клуб даўно ўжо больш, чым проста лепшая беларуская каманда і нагода парадавацца заўзятарам. БАТЭ, у маім уяўленні, — брэнд Беларусі, прычым са знакам “+”. І я абсалютна ўпэўнены, што дзякуючы БАТЭ (прынамсі, у Еўропе) дзясяткі мільёнаў людзей даведаліся пра існаванне нашай краіны. Поспехі мінскага “Дынама” ў 80-я гады былі даволі істотным чыннікам ва ўсіх працэсах вяртання да нацыянальнай свядомасці і сваёй ідэнтычнасці. Тады на стадыёне крычалі: “Беларусь! Беларусь!” Не “Жыве Беларусь!”, праўда, але “Беларусь!”. Асабліва ў Маскве, калі гулялі са “Спартаком” апошнюю вырашальную гульню, крычалі “Беларусь”, а не “Дынама”. І я думаю, што БАТЭ, безумоўна, працуе на беларускую ідэнтычнасць.

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### “ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫ ПРЫВАТНЫ КЛУБ ВЯРТАЕ БЕЛАРУСЬ У ЕЎРОПУ”.

— Як даўні заўзятар футбола, з тых часоў, як БАТЭ трывала стала на ногі і вылучылася сярод беларускіх каманд, я адданы прыхільнік гэтай каманды. Думаю, што сёння ў БАТЭ шмат прыхільнікаў па ўсёй Беларусі, незалежна ад таго, маюць гарады свае каманды ці не. БАТЭ, канечне, — гэта нашае свята. Гэта больш, чым падзея ў беларускім футболе. БАТЭ адыгрывае нейкую кансалідуючую ролю для беларусаў як беларусаў, таму што футбол, сапраўды, найбольш папулярнае спартыўнае відовішча. І надзвычай важна, што менавіта вакол БАТЭ адбываецца яднанне. Правінцыяльны клуб з невялікага горада — сімвал патэнцыяльных магчымасцей для ўсіх і кожнага. Гэта тая амерыканская мара — маўляў, кожны можа стаць прэзідэнтам, мільярдэрам і кімсьці яшчэ. Цэлы комплекс момантаў, непрыкметных на першы погляд. Яшчэ адзін істотны момант: феномен не толькі ў тым, што гэта правінцыяльны клуб, але і ў тым, што тут абсалютна адсутнічае дапамога дзяржавы. Менавіта прыватная ініцыятыва.

Я думаю, наш галоўны герой не асабліва выказваецца з нагоды БАТЭ, таму што ў хакей кінуты вялізныя грошы, набудавана невядома колькі палацаў, між тым нічога вартага не назіраецца. А тут сваімі рукамі стварылі цуд для Беларусі! З гэтага бачна, што чым менш дзяржавы і больш прыватнай ініцыятывы, тым больш плён. Я ўжо не кажу пра тое, што ўсе лепшыя клубы Еўропы прыязджаюць сюды. Калі б мы іх яшчэ пабачылі? Аказваецца, дзякуючы такой ініцыятыве можна звязаць сябе з самым лепшым, што ёсць у еўрапейскім свеце. І хай не на роўных, але Еўропа вяртаецца ў Беларусь, прычым лепшымі сваімі праявамі.

**ПАЎЛЮК КАНАВАЛЬЧЫК, ДЫРЭКТАР ІНФАРМАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАГА АГЕНЦТВА “ПАСТМЕДЫЯ”:**

### “БАТЭ ПАВЫШАЕ САМААЦЭНКУ БЕЛАРУСАЎ”.

— Спартыўныя перамогі павышаюць статус любой краіны. І балець за сваіх — гэта значыць працягваць палітычнае спаборніцтва нацый у свеце. І поспехі нашай футбольнай каманды прадэманстравалі, што і ў футболе, які не з’яўляецца нашым “каньком”, мы нечага вартыя. Гэта павышае самаацэнку беларусаў. Калі ёсць чым ганарыцца, стаўленне да сябе заўсёды паляпшаецца.

**АЛЕГ ГАРДЗІЕНКА, ЖУРНАЛІСТ (“НАША НІВА”):**

### “БЕЛАРУСЫ НЕ ЎМЕЮЦЬ ЦАНІЦЬ СВАЕ ПЕРАМОГІ”.

— Для мяне як для заўзятара гэта наймацнейшы беларускі футбольны клуб. БАТЭ, нягледзячы на тры апошнія паразы ў Лізе чэмпіёнаў, гэтым наймацнейшым клубам застаецца. Клубам, які дорыць нам радасць. У жыцці беларусаў яе няшмат. А пяты сезон у еўрапейскіх кубках — гэта здорава! Трынаццаць гадоў назад, калі БАТЭ пачынаў свой шлях чэмпіёнаў, пра такое заставалася толькі марыць. Шкада, што пасля перамог над “Лілем” і “Баварыяй” Фэйсбук “вывяргаўся” салютам у бок БАТЭ, а пасля трох паразаў тыя ж самыя заўзятары пачалі закідваць каманду брудам. Беларусы не ўмеюць радавацца сваім перамогам і не ўмеюць іх цаніць, у адрозненне, напрыклад, ад літоўцаў. Там абсалютна іншая сітуацыя: калі Літва перамагла ў чэмпіянаце Еўропы па баскетболе, уся нацыя выйшла на вуліцы, а калі перамогі няма, уся Літва смуткуе. Беларусам да гэтага яшчэ расці і расці.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДАРЭЧЫ**

### НЕ ДАГРУКАЛІСЯ

**Галоўны трэнер БАТЭ Віктар Ганчарэнка пасля паразы ад «Ліля» (0:2) у бліц-інтэрв’ю “Прессболу” прызнаў памылку трэнерскага штаба:**

– Калі шукаць пазітыў, то мы ўсё ж такі выйшлі ў плэй-оф Лігі Еўропы. Гэта таксама якое-ніякое дасягненне. Каманда зараз засмучаная. Увесь рух, запал, самааддача прыйшліся на першыя два матчы турніру. Гэта памылкі трэнерскага штаба. Не змаглі дагрукацца да каманды.

**– Будзеце хварэць за «Валенсію» ў матчы з «Баварыяй»?**

– Цяжка сказаць — за каго. Абодва супернікі — гранды, з якімі калі і рэальна, то вельмі цяжка змагацца.

# ПРЫВІТАННЕ З 1937 ГОДА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Падагульнім. Па-першае, выглядае, што Лукашэнка пабойваецца Зайцава, таму апошняга звальнялі ў экстранным рэжыме, ды яшчэ і пакідаючы надзею на вяртанне, а цяпер абяцаюць іншую пасаду.

Па-другое, сілавым структурам пагражае скарачэнне. 15 лістапада Лукашэнка праводзіў нараду па рэфармаванні органаў унутраных спраў, і сярод пастаўленых задач — памяншэнне колькасці супрацоўнікаў. Праз пару дзён той самы матыў гучаў ужо ў КДБ.

І па-трэцяе. Тыдзень назад "Тут і цяпер" адзначала, што "атмасфера ў Беларусі ўсё больш набліжаецца да выбуховай...". Заявы Лукашэнкі пра "процьму ворагаў", якія спяць і бачаць, як парэзаць Беларусь на кавалкі, яшчэ больш напружваюць абстаноўку. І ўжо не здзіўляе, што слесара "Нафтана" арыштоўваюць па абвінавачванні ў "здрадзе Радзіме". Гэта прывітанне 2012 году з 1937-га, які падаецца не такім ужо і далёкім.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# НАЯЎНАЙ СКВ Ў ДЗЯРЖАВЫ НЕ ХАПАЕ?

**З 17 лістапада ў Беларусі пачала дзейнічаць пастанова праўлення Нацбанка № 577 "Аб прадастаўленні крэдытаў у замежнай валюце".**

Згодна з дакументам, "крэдыты ў замежнай валюце прадастаўляюцца ў безнаяўным парадку шляхам пералічэння банкам замежнай валюты ў аплату разліковых дакументаў, прадастаўленых крэдытаатрымальнікам, на рахункі нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь, а таксама рэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам".

Асноўнымі разліковымі дакументамі з'яўляюцца: аплатныя даручэнні, аплатныя патрабаванні-даручэнні, разліковыя чэкі, акрэдытывы. Карацей, практычна ўсе "плацёжкі" пры разліку за тавар ці паслугі.

## БАНКАМ ПАТРЭБНА ВАЛЮТА

На думку **эканаміста Леаніда Заікі**, Нацбанку нічога не застаецца, як "закрыць у безнал" такія крэдытныя лініі, каб пазбегнуць гульні на валютных курсах. "Нават самаму непадрыхтаванаму чалавеку зразумела, што можна ўзяць крэдыт у валюце пад 5% гадавых, перавесці яго ў беларускія рублі і пакласці ўжо пад 35%, а то і 47% гадавых (такімі былі рублёвыя стаўкі ўкладаў зусім нядаўна). І жыць пры гэтым прыпяваючы", — кажа Заіка.

Паводле яго слоў, дэпазітныя стаўкі на рынку сёння вельмі высокія. "У наступным годзе беларускія банкі па гэтых укладах павінны выплаціць каля пяці мільярдаў долараў. Натуральна, валюту трэба берагчы. Гэтым таксама выклікана такое рашэнне", — кажа Заіка.




## БІЗНЕС НЕ ПАЦЯРПІЦЬ

Што ж да буйнога бізнесу, то, на думку Заікі, ён не надта пацярпіць ад таго, што валюта пераведзена ў безнаяўны сегмент. "Па-першае, сапраўдны бізнес крэдыты браць не будзе. Па-другое, якія сёння ёсць праблемы ў адзінай мытнай прасторы? Захацеў валюту — сеў, паехаў у тую ж Расію, памяняў", — лічыць Заіка.

"Калі хочацца валюты — вырабляй канкурэнтаздольную прадукцыю і экспартуй яе. Зарабляй грошы ў Расіі, Еўропе, і нічога дрэннага не будзе. А "чаўночны" бізнес, гэтую дурную форму карабейніцтва, пара спыняць — яна павінна вымерці", — лічыць Заіка.

"Такі бізнес не мае перспектыў. Гэта прымітыў, учарашні дзень. Купіў майку ў Літве за долар, а тут прадаў за восем — такі бізнес не трэба і апекаваць", — лічыць Заіка.

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ НЕ СУПРАЦЬ

Лідар Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў "Перспектыва" Анатоль Шумчанка кажа: што наяўная валюта, што безнаяўная — прадпрымальнікам "па барабане". "Цяпер любы прадпрымальнік, які атрымае валютны крэдыт, зможа проста яго "абнаявіць". Большасць прадпрымальнікаў маюць такія магчымасці, і гэта для дробнага бізнесу не перашкода", — кажа Шумчанка.

Паводле яго слоў, праблема тут не ў тым, безнаяўныя ці наяўныя валютныя крэдыты ў Беларусі будуць выдавацца, а ў працэнтных стаўках па гэтых крэдытах. "Мы 90% тавараў імпартуем, таму валюта нам патрэбна. Але пытанне ў разумнасці крэдытавання. Нядаўна мы праводзілі апытанне прадпрымальнікаў (яно неўзабаве будзе прадстаўлена і шырокай грамадскасці). Высветлілася, што ў асноўным прадпрымальнікі для развіцця свайго бізнесу займаюць валюту ў сваякоў і сяброў, і таксама з працэнтамі. У сяброў-сваякоў "стаўкі" па крэдытах ніжэйшыя, чым у банках", — кажа Шумчанка.

Працэнты — толькі гэта пакуль што перашкаджае прадпрымальнікам паспяхова карыстацца крэдытнымі лініямі дзяржавы.

## БАРАЦЬБА ЗА ТЭРМІНЫ

Між тым такое рашэнне Нацбанка можа быць выклікана яшчэ адным фактарам. Не далей як 2 лістапада прэзідэнт выказаў відавочную незадаволенасць зніжэннем валютнай выручкі. "Вы можаце наогул нічога не прадаваць, але грошы вязіце ў краіну", — заявіў Лукашэнка, звяртаючыся да экспарцёраў. Скарачэнне прытоку валюты ўлады тлумачаць той акалічнасцю, што раней былі павялічаны тэрміны вяртання валютнай выручкі.

У цяперашні час у Беларусі тэрміны правядзення знешнегандлёвых аперацый устаноўлены наступныя: 90 каляндарных дзён па экспарце і 60 каляндарных дзён па імпарце. Парушэнне гэтых тэрмінаў пагражае прадпрыемствам сур'ёзным штрафам. Праўда, Нацбанку і ўраду прадастаўлена права ўстанаўліваць і іншыя тэрміны завяршэння знешнегандлёвых аперацый.

Таму, напрыклад, вытворцам тэхнічнай прадукцыі (сюды адносяцца прадстаўнікі беларускага машынабудавання) дадзена права на куды больш працяглы тэрмін завяршэння знешнегандлёвых аперацый — ад паўгода да двух гадоў.

Відавочна, што сёння, у становішчы вострай патрэбы ў валюце (узгадайма пра 5 млрд долараў, пра якія казаў Заіка), банкам трэба ведаць, куды і на колькі "знікне" іх крэдыт. Увядзеннем "безнала" на крэдытным рынку Нацбанк можа кантраляваць, колькі куды валюты сышло, і колькі яе вярнулася.

Вось толькі наколькі гэта дапаможа нашай эканоміцы?

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# МЕНШЫ РЭЙТЫНГ ТОЛЬКІ Ў ЯНУКОВІЧА

Чым больш дэмакратыі, тым мацнейшая папулярнасць прэзідэнтаў. Па меншай меры, гэта відавочна ў адносінах да лідэраў суседніх Украіны, Расіі, Літвы, Польшчы і Латвіі.

## ЦЯЖАР АЎТАРЫТАРЫЗМУ

**БЕЛАРУСЬ**

Як вядома, адпаведна свежым даследваннем НІСЭПД (Вільнюс), у параўнанні з чэрвенем рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі вырас з 29,7% да 31,6%, гэта значыць у межах памылкі выбаркі ў 3% (у сакавіку ён складаў 34,5%). Самі сацыёлагі кажуць, што дэ-факта гэта не з'яўляецца ростам.

**УКРАІНА**

Пра рэйтынг Лукашэнкі ўжо сказана. Аднак у больш кепскай сітуацыі аказаўся яго калега з Поўдня. 23 жніўня Цэнтр Разумкова, адна з самых аўтарытэтных даследчых арганізацый Украіны, канстатаваў: рэйтынг украінскага прэзідэнта Віктара Януковіча зваліўся "ніжэй за плінтус". Януковіча цалкам падтрымліваюць толькі 12,6% украінцаў, а ў траўні 2010 года іх было амаль 40%. Цалкам не падтрымліваюць Віктара Януковіча 47% жыхароў Украіны. У маі 2010 года гэты паказчык складаў толькі 23%.

Прычым, самае дзіўнае, рэйтынг Януковіча аказаўся ўдвая ніжэйшым за рэйтынг яго "Партыі рэгіёнаў", якая набрала 25% папулярнасці.

Янукoвіч, даведаўшыся аб гэтых лічбах, быў настолькі шакіраваны, што нават выступіў з адмысловай заявай, паводле якой большасць украінцаў яшчэ проста не паспела адчуць паляпшэнне жыцця ў краіне. Па даных Януковіча, за апошні год зарплаты ва Украіне выраслі на 15% пры "практычна нулявой інфляцыі". "Але большасць украінцаў гэтага не адчулі. Чаму? Таму што паляпшэнні пакуль што непрацяглыя па часе. Мы ўсяго год пражылі. Гэта значыць трэба, каб сацыяльныя ініцыятывы выходзілі на ўзровень дзяржаўнай палітыкі", — заявіў спадар Януковіч.

**РАСІЯ**

Не лепшая сітуацыя і ў іншага аўтарытарнага прэзідэнта — Уладзіміра Пуціна. Яго выбары адбыліся 4 сакавіка 2012 года. Пуцін у выніку набраў 71,31% галасоў расіян. Аднак крыху больш чым за паўгода сітуацыя змянілася не тое каб кардынальна, але істотна.

Усерасійскі цэнтр вывучэння грамадскай думкі (УЦВГД) 11 кастрычніка прадставіў даныя, паводле якіх колькасць грамадзян, на якіх прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін аказвае спрыяльнае ўражанне, скарацілася да 59 адсоткаў.

Пры гэтым павялічылася колькасць тых, хто дае асобе прэзідэнта негатыўную ацэнку: такое меркаванне склалася ў 22 адсоткаў рэспандэнтаў.

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута сацыялогіі РАН Лявонцій Бызаў заявіў, што менавіта спробай узмацніць падтрымку з боку кансерватыўнай большасці тлумачацца апошнія гучныя акцыі з удзелам прэзідэнта, у тым ліку знакаміты "палёт са сцерхамі".




*Дэмакратычныя краіны-суседзі выйграюць ва многім*

> "І як толькі "шкварка" становіцца меншай, а "чарка" — няпоўнай, рэйтынг прэзідэнта падае. А ў дэмакратычных краінах няма сацыяльнага кантракта: там ніхто нічога не забірае, таму рэйтынгі залежаць ад зусім іншых пазіцый".

## ПЕРАВАГІ ДЭМАКРАТЫІ

**ЛІТВА**

Апытанне, праведзенае літоўскім прадпрыемствам вывучэння грамадскай думкі і рынку Spinter tyrimai 13-20 сакавіка, паказала, што за прэзідэнта Літвы Далю Грыбаўскайтэ свае галасы аддалі б 52,2% рэспандэнтаў.

Між тым аналітыкі адзначаюць, што ў Літве ёсць сур'ёзныя праблемы. Крызіс моцна ўдарыў па гэтай прыбалтыйскай рэспубліцы. Работы амаль няма, моладзь патокам з'язджае на Захад у пошуках лепшага жыцця.

Аднак масавыя пратэсты ў цэнтры Вільні накшталт тых, што тры гады назад падштурхнулі Далю Грыбаўскайтэ балаціравацца ў прэзідэнты, не паўтараліся. Сама яна з першых дзён прэзідэнцтва паказала сябе "ашчаднай гаспадыняй" — урэзала сабе зарплату ў тры разы і не стала ладзіць дарагі "еўрарамонт" у прэзідэнцкай рэзідэнцыі.

**ПОЛЬШЧА**

6 жніўня 2012 года споўнілася два гады прэзідэнцтва ў Польшчы Браніслава Камароўскага. Рэйтынг яго папулярнасці стабільна вагаецца каля 70%.

Камароўскі застаецца вельмі папулярнай фігурай у апытаннях грамадскай думкі. Ён нязменна падаецца як самы папулярны дзяржаўны дзеяч Польшчы, нягледзячы на падпісанне некаторых спрэчных законапраектаў, у тым ліку аб павышэнні пенсіённага ўзросту да 67 гадоў як для мужчын, так і для жанчын. Непапулярныя рэформы ў 2011 годзе абрынулі рэйтынг партыі "Грамадзянская платформа" і рэйтынг урада, але не прэзідэнта.

**ЛАТВІЯ**

Рэйтынг прэзідэнта Латвіі Андрыса Берзіньша крыху панізіўся, аб чым сведчаць вынікі апытання, праведзенага цэнтрам сацыялагічных даследаванняў Latvijas fakti ў верасні 2012 года. Але знізіўся ён усяго на 4,2%, і складае 55%.

У той жа час у верасні вырас рэйтынг прэм'ера Латвіі Валдзіса Дамброўскіса. Работу прэм'ера station — становячы ацанілі

| Назва краіны | Прэзідэнт | Рэйтынг |
|---|---|---|
| Беларусь | Аляксандр Лукашэнка | 31,6% |
| Украіна | Віктар Януковіч | 12,6% |
| Расія | Уладзімір Пуцін | 59% |
| Літва | Даля Грыбаўскайтэ | 52,2% |
| Польшча | Браніслаў Камароўскі | 70% |
| Латвія | Андрыс Берзіньш | 55% |

48,3% апытаных — прыкладна на 5% больш, чым у жніўні.

"Парадоксы" жыцця

Атрымліваецца быццам бы відавочны нонсенс.

Усе аўтарытарныя прэзідэнты выкарыстоўваюць прапаганду і агітацыю для таго, каб паказаць, "як у нас добра". Тым не менш рэйтынгі іх падаюць!

А вось дэмакратычныя прэзідэнты ва ўмовах крызісу прымаюць непапулярныя законы, эканомяць на ўсім, і іх рэйтынгі растуць...

Сацыёлаг Аляксандр Сасноў падкрэслівае адну цікавую дэталь: "Усе аўтарытарныя рэжымы абяцаюць, што "жыць стане лепш, жыць стане весялей ". Яны абяцаюць, што нешта ДАДУЦЬ. У той час як у дэмакратычных краінах людзі не чакаюць, што ім прэзідэнт нешта дасць, а самі імкнуцца ЗАРАБІЦЬ. Таму ў выніку пагаршэння эканамічнай сітуацыі рэйтынг аўтарытарных прэзідэнтаў зніжаецца, а ў дэмакратычных краінах ён можа і вырасці — калі людзі бачаць, што кіраўніцтва дае ім магчымасць зарабіць", — сцвярджае Сасноў.

"Гэта той самы славуты "сацыяльны кантракт" паміж дыктатурай і народам, пра які нам вушы прагудзелі. І ў Расіі, і ва Украіне, і ў Беларусі прэзідэнт адбірае ў народа частку палітычных свабод у абмен на свой абавязак забяспечыць іх дабрабыт. І як толькі "шкварка" становіцца меншай, а "чарка" — няпоўнай, рэйтынг прэзідэнта падае. А ў дэмакратычных краінах няма сацыяльнага кантракта: там ніхто нічога не забірае, таму рэйтынгі залежаць ад зусім іншых пазіцый", — лічыць Сасноў

"Там улада падкантрольная людзям: парламент, прэзідэнт, урад трымаюць справаздачу аб сваёй дзейнасці перад народам. Яны проста вымушаны пераканаўча тлумачыць свае непапулярныя меры і рашэнні. А калі чалавек ведае, што, як, чаму і навошта ўрад робіць у крызіснай сітуацыі, яму значна лягчэй ацаніць карыснасць гэтых крокаў. І гэта аўтаматычна аслабляе незадавальненне", — сказаў Сасноў.

Так што чым больш дэмакратыі, тым вышэйшыя рэйтынгі ў прэзідэнтаў.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ДАРАЖЭЮЦЬ АЛКАГОЛЬ І ЦЫГАРЭТЫ

**Яшчэ не паспеўшы ачуняць ад павышэння адпускных цэн на алкагольную прадукцыю, народ атрымаў новы сюрпрыз: чарговыя змены ў Падатковы кодэкс прадугледжваюць павышэнне акцызаў на спірт і цыгарэты.**




*Дарагой становіцца не толькі электронная цыгарэта*

Аднак адмыслоўцы кажуць, што насельніцтву панікаваць пакуль што не трэба.

Можа, увесці акцызы на жаночую касметыку?

Эканаміст Леанід Заіка кажа, што акцыз — гэта падатак, які ўстанаўліваецца на тавары раскошы і тавары, шкодныя для здароўя. "У прынцыпе, гэта падатак для багатых слаёў насельніцтва. Палітыка акцызаў актыўна ўжывалася ў "новым курсе" прэзідэнта ЗША Франкліна Дэлана Рузвельта з 1933 года з мэтай выхаду з маштабнага эканамічнага крызісу ("Вялікай дэпрэсіі"), які ахапіў ЗША ў 1929—1939 гадах", — кажа Заіка.

Пры гэтым, паводле яго слоў, у адрозненне ад нас, амерыканцы пайшлі далей. "Яны ўвялі акцызы нават на жаночую касметыку — на пудру. Пэўна, і нашым заканадаўцам трэба ўвесці нешта падобнае да гэтага", — жартуе Заіка.

## ПАВЫШЭННЕ НА 20%

У сувязі з ростам акцызаў цэны вырастуць прыкладна на 20%, кажуць эксперты. У кошце пачкі цыгарэт акцыз займае каля 20%. Адпаведна, з улікам таго, што акцыз на цыгарэты нізкага коштавага сегмента падымецца на 109%, можна чакаць павелічэння кошту пачка больш чым на 20%. У выпадку з цыгарэтамі сярэдняга коштавага сегмента гаворка можа ісці аб павышэнні цэн на 15%. Тытунёвыя вырабы з высокага сегмента падаражэюць прыкладна на 10%.

"Існуюць розныя варыянты. Першы: павелічэнне акцызу цалкам пераносіцца на плечы спажыўца. Другі варыянт: часткова кампенсуецца за кошт прыбытку прадпрыемстваў", — распавёў адзін з прадстаўнікоў тытунёвай галіны.

Але, хутчэй за ўсё, дадаў ён, "усе вытворцы тытунёвай прадукцыі будуць схіляцца да першага варыянту".

У кошту бутэлькі гарэлкі, па даных вытворцаў, акцыз займае прыкладна 50%. Адпаведна, павышэнне акцызу на 34,5% можа прывесці да росту цэн на 20%.

## У ВЫЙГРЫШЫ — ТОЛЬКІ ДЗЯРЖАВА

Для беларускага бюджэту акцызы з'яўляюцца адной з асноўных крыніц яго напаўнення. Паводле ацэнак Мінфіна, у 2013 годзе амаль 9% даходаў бюджэту будзе сфарміравана за кошт ускосных падаткаў, што ўключаюцца ў адпускную цану прадукцыі.

У 2013 годзе Мінфін плануе атрымаць у кансалідаваны бюджэт за кошт акцызаў больш як 164 трлн рублёў (у параўнанні з 2012 годам велічыня "акцызных" паступленняў у казну павінна вырасці на 45%). Істотны рост даходаў чакаецца за кошт таго, што ў будучым годзе вырастуць згаданыя вышэй акцызныя зборы.

Больш за ўсё акцызаў дзяржава плануе сабраць ад продажу гарэлкі. Чакаецца, што каля 5 трлн рублёў паступіць у казну за кошт гарэлачнага акцызу. Больш як 4,3 трлн рублёў, паводле ацэнак Мінфіна, прынясуць у бюджэт паступленні ад збору акцызаў на аўтамабільнае паліва.

## АКЦЫЗЫ БУДУЦЬ ПАВЫШАЦЦА І ДАЛЕЙ

Зрэшты, перспектывы для насельніцтва, якое абкладаецца гэтым "ускосным падаткам на багатых", нярадасныя.

Сёння Беларусь стаіць перад неабходнасцю і ў далейшым павышаць акцыз на алкаголь для таго, каб "падагнаць" яго пад узровень сваіх партнёраў па Мытным саюзе. Міністр фінансаў Андрэй Харкавец, выступаючы на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў 21 чэрвеня, даў зразумець, што павышаць стаўкі акцызаў усё ж давядзецца, інакш будзе павялічвацца незаконны выпуск гэтай прадукцыі, яе "шэры" імпарт і гэтак далей.

Зрэшты, кіраўнік Мінфіна адзначыў, што краіны Мытнага саюза пры вызначэнні ставак акцызаў на алкаголь і тытунь будуць улічваць і пакупніцкую здольнасць насельніцтва сваіх дзяржаў.

Казахстан, напрыклад, мае намер расцягнуць павышэнне акцызаў на 7 гадоў. А Леанід Заіка кажа, што такое выраўноўванне ставак можна рабіць бясконца доўга. "Гэта можна рабіць бясконца — і сто гадоў выраўноўваць акцызы і падаткі. Я наогул не думаю, што гэта важна. Кожная краіна можа мець свае акцызы і свае падаткі нават у адзінай мытнай прасторы. Калі нехта думае, што піва" Балтыка" ў нас павінна каштаваць столькі ж, колькі "Аліварыя", то давайце тады ўжо выраўноўваць цэны на ўсю прадукцыю", — кажа Заіка.

А калі выраўноўваць цэны на ўсю прадукцыю, то "давайце ўжо выраўноўваць і зарплату, якая ў Расіі — 1000 долараў, а ў нас і да 500 не дацягвае", — прапаноўвае Заіка.

Толькі ўніфікаваць заробак у рамках Мытнага саюза чамусьці пакуль што ніхто не спяшаецца.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ЯКІХ МІНІСТРАЎ У БЕЛАРУСІ МЯНЯЮЦЬ ЧАСЦЕЙ ЗА ІНШЫХ

**На мінулым тыдні адбылася чарговая гучная ратацыя чыноўніцкіх кадраў. "Нядрэннага міністра" культуры Паўла Латушку перасадзілі ў крэсла пасла Беларусі ў Францыі, старшыня Следчага камітэта Валерый Вакульчык быў прызначаны кіраўніком КДБ, а вызваленае былым начальнікам месца заняў яго намеснік Валянцін Шаеў.**

Натхніўшыся кадравымі перастаноўкамі, **"Тут і цяпер"** узгадвае, кіраўнікоў якіх міністэрстваў і ведамстваў у незалежнай Беларусі "ператрахвалі" часцей за іншых.

Прыкладам, як падлічылі калегі з "Еўрарадыё", старшыняў КДБ за час знаходжання ва ўладзе цяперашняга беларускага лідара змянілася ажно 7! Прычым затрымацца ў высокім крэсле больш за 5 год не ўдалося ніводнаму з іх. Але гэта, адзначым, яшчэ не рэкордная лічба.

## ДАРЭЧЫ

Беларусь – абсалютны лідар сярод краін-суседак па колькасці міністэрстваў. Іх у нашай краіне функцыянуе ажно 24, і яшчэ плануецца стварыць неўзабаве Міністэрства прамысловай палітыкі – відаць, дзеля прыгожай лічбы.

У Чэхіі і Швецыі, падобных да Беларусі па колькасці насельніцтва і геаграфічным становішчы, функцыянуюць 14 і 12 міністэрстваў адпаведна; у Расіі – 18, ва Украіне – 16.

Зразумела, пералічваць кіраўнікоў двух тузінаў міністэрстваў мы не будзем. Спынімся толькі на своеасаблівых лідарах.

## КУЛЬТУРНЫЯ ЛЮДЗІ

Цяпер ужо былы міністр культуры Павел Латушка пратрымаўся на пасадзе без месяца 3,5 года і, заўважым, за гэты час паспеў зрабіць больш, чым некаторыя "доўгатэрміновыя" папярэднікі. Першым жа ў шэрагу адказных за культуру быў пісьменнік Анатоль Бутэвіч, адметны сярод іншых міністраў тым, што ўзначальваў два беларускія ведамствы: спачатку міністэрства інфармацыі (1992–1994), потым – культуры і друку (1994–1996). У 1996 годзе міністэрскае крэсла заняў Аляксадр Сасноўскі, кіраўніцкі вопыт якога да таго часу абмяжоўваўся пасадамі дырэктара ПТВ і намесніка старшыні Мінгарвыканкама. У 2000 яго знялі з фармулёўкай "за нездавальняючае кіраўніцтва і сур'ёзныя ўпушчэнні ў арганізацыі працы", а на амбразуру "кінулі" загартаванага чыноўніцкімі апаратамі бібліятэкара Леаніда Гуляку. З 2005 года "галоўным па культуры" ў Беларусі быў Уладзімір Мацвяйчук, працоўная біяграфія якога таксама ўражвае пільных назіральнікаў: лектар райкама КПБ, намеснік старшыні райвыканкама, кіраўнік ПТВ хімікаў, дырэктар па ідэалогіі "Полацк-Шкловалакна", старшыня Белтэлерадыёкампаніі, міністр культуры, памочнік прэзідэнта, а на дадзены моманты – ганаровы пенсіянер…

Спадкаемцам Латушкі, як сцвярджаюць у кулуарах, стане альбо цяперашні кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька, альбо рэктар Універсітэта культуры і мастацтваў Барыс Святлоў. І гэта будзе ўжо шосты міністр культуры за апошнія 18 год.

## МІНІСТРЫ ЯК ПАЛЬЧАТКІ

Ведамства, у якім кіраўнікі мяняюцца часцей, чым народ паспявае цвёрда вывучыць іх прозвішчы, – міністэрства спорту і турызму Беларусі. Даўжэй за іншых на пасадзе працаваў першы міністр спорту і прэзідэнт НАК Беларусі Уладзімір Рыжанкоў (1991–1996). Пасля яго заўчаснай смерці новы кіраўнік спартыўнай галіны, Уладзімір Макейчык, быў прызначаны толькі праз год і пратрымаўся ўсяго год, як і наступны – Мікалай Ананьеў (1998–1999). Потым міністры мяняліся як пальчаткі: то ў залежнасці ад вынікаў чарговых Алімпійскіх гульняў і чэмпіянатаў свету, то ў выніку ўнутраных каляспартыўных інтрыг. Яўгена Ворсіна (1999) замяніў Юры Сівакоў (2003), а таго – Аляксандр Грыгараў (2005), які ў сваю чаргу саступіў крэсла Алегу Качану (2009). Нарэшце, сёлета 31 кастрычніка "галоўным па талерачках" быў прызначаны генерал-маёр унутранай службы Аляксандр Шамко – на дадзены момант восьмы міністр спорту Беларусі. Яго памочнікам, адзначым, стаў Максім Рыжанкоў – сын першага беларускага міністра спорту Уладзіміра Рыжанкова. Атрымалася своеасаблівае колца – шкада, не алімпійскае.



*Пасля громкіх скандалаў на мінулай Алімпіядзе прыспеў час заводзіць міністра па допінгу*

## ДВОЙЧЫ Ў АДНУ РАКУ

Нямала ў гісторыі суверэннай Беларусі змянілася і "сілавікоў". У прыватнасці, міністраў абароны было 6 (альбо 5, калі ўлічваць, што Леанід Мальцаў вярнуўся на пасаду, з якой са скандалам быў зняты ў першы раз, і адпрацаваў на ёй у суме 9 год).

Столькі ж кіраўнікоў – 6 – змянілася і ў Міністэрстве ўнутраных спраў, калі пачынаць адлік ад першага прэзідэнцкага тэрміну; з моманту ж абвяшчэння незалежнасці на пасадзе кіраўніка МУС пабывалі 8 чалавек – ад першапраходца Уладзіміра Ягорава да цяперашняга міністра Ігара Шуневіча.

## ПРАЦА ЖАНОЧАГА РОДУ

Пералічваючы кіраўнікоў 24 беларускіх міністэрстваў, нельга не заўважыць, што жанчына сярод іх усяго адна – Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна. І тое толькі таму, як кпяць у кулуарах, што слова "праца" – жаночага роду. Таксама кіраўніцкія крэслы займалі ў свой час жанчыны ў Міністэрстве аховы здароўя – Інэса Драбышэўская (1994–1997) і Людміла Пастаялка (2000–2006).

І ўсё адно гэта адзінкавыя прыклады. У той час як у Японіі адзначаецца нават асобны Дзень жанчын-міністраў.

## САМЫЯ ХУТКІЯ І САМАЯ СТАБІЛЬНАЯ

Адносная цыклічнасць назіраецца ў айчынным Міністэрстве адукацыі, кіраўнікі якога працуюць па чарзе то 2, то 7 гадоў: Віктар Гайсёнак (1992), Васіль Стражаў (1994), Пётр Брыгадзін (2001), Аляксандр Радзькоў (2003). Калі наша версія правільная, то Сяргею Мас-



*Новы міністр – адносна новыя фарбы міністэрства*

кевічу, прызначанаму на пасаду ў 2010 годзе, варта засцерагацца за сваё крэсла.

Як паказаў экскурс у гісторыю, адназначным лідарам ратацыйнага рэйтынгу з'яўляецца Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання. Ім кіравалі ажно 12 (!) чалавек, улічваючы камбэк міністра Міхаіла Русага (2001–2003 і 2010–2012) і "хуткасных" міністраў Вадзіма Папова (прабыў на пасадзе 4 месяцы ў 2000) і Зянона Ломаця (паўгода ў 2003).

Лавіруючы паміж міністрамі замежных спраў (якіх з 1990 года змянілася 7 чалавек) і аховы здароўя (6 чалавек), кіраўнікоў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (4) і ўсё яшчэ існуючага Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі (4), узгадваючы добрым ціхім словам старшыняў Белтэлерадыёкампаніі (7 чалавек), пералічваючы прэм'ер-міністраў (7 чалавек), мы спрабавалі знайсці ў высокіх кабінетах доўгажыхароў. А гэта было няпроста. Здавалася б, нашто ўжо грошы любяць стабільнасць, але нават у Нацыянальным банку РБ з моманту яго стварэння змянілася 4 кіраўнікі, прычым найдаўжэй – амаль 13 год – на пасадзе працаваў Пётр Пракаповіч…

І ўсё ж такі чалавек знайшоўся, і ў дадатковых прадстаўленнях ён патрэбы не мае: вось ужо дзясяты год выконвае свае функцыі заслужаны юрыст РБ старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, змяніўшы на пасадзе ў 1996 годзе Віктара Ганчара – непахісна і нязменна. А значыць, перажываць за поўную беларускую стабільнасць няма чаго. Ці?..

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

# ЯК "МАБІЛІЗАВАЛІ" ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ

**У паваеннае дзесяцігоддзе каля траціны жыхароў Баранавіцкай вобласці былі прымусова высланы на працу за межы роднага краю. Сенсацыйнымі вынікамі даследавання гісторык Аляксандр Татаранка падзяліўся з карэспандэнтам "Тут і цяпер".**

Больш за дзесяцігоддзе падпалкоўнік запасу вывучае злачынствы Саветаў у Заходняй Беларусі. У новым даследаванні, грунтаваным на даных раней закрытых архіваў, ён прыйшоў да шакіруючых высноў.

## ТАЯМНІЦЫ РЭГІЯНАЛЬНЫХ АРХІВАЎ

Шэсць год назад малым накладам у Расіі выйшла 800-старонкавая кніга Аляксандра Татаранкі «Недозволенная память: Западная Беларусь в документах и фактах, 1921—1954» (Санкт-Пецярбург, 2006), якая перавярнула ўяўленне пра маштабы савецкіх злачынстваў на далучаных "усходніх крэсах".

Цягам апошніх гадоў баранавіцкі даследчык не вылазіць з рэгіянальных архіваў, многія дакументы ў якіх захоўваліся некранутымі больш за 60 год. У прыватнасці, ён вывучае прымусовую мабілізацыю рабсілы ў Заходняй Беларусі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

Нагадаем, што з вясны 1921 па верасень 1939 Заходняя Беларусь знаходзілася ў складзе Польшчы. Дзякуючы гэтаму, яе жыхары не спазналі разбуральную калектывізацыю і сталінскія рэпрэсіі. Аднак пасля перамогі над Гітлерам Масква звыштэмпамі пачала "навёрстывать упущенное".

Пра бальшавіцкі крымінал адразу пасля уз'яднання Заходняй Беларусі і БССР, яшчэ да вайны, мы распавядалі ў папярэдніх артыкулах. У "Недозволенной памяти" Татаранка сведчыць, што з 1944 па 1949 год больш за 20 тысяч жыхароў адной толькі Баранавіцкай вобласці (як адміністратыўная адзінка існавала з 1939 па 1954 год) папоўнілі савецкія канцлагеры. За калючы дрот аднаго такога лагера ў Навагрудку з 1944 па 1947 загналі больш за 30 тысяч "здраднікаў радзімы". Аўтар таксама прыйшоў да высновы, што разгорнутая ў Заходняй Беларусі пасля сыходу фашыстаў мабілізацыя ў Чырвоную армію была прыхаванай формай рэпрэсій супраць "сумнеўнага" мясцовага насельніцтва. Вынікам, больш за 20 тысяч мабілізаваных у Чырвоную армію з Баранавіцкай вобласці загінулі на франтах.

На гэтым, аднак, зачыстка "нядобранадзейнай" Заходняй Беларусі не скончылася.

## ГВАЛТОЎНА-"ДАБРАВОЛЬНАЯ" МАБІЛІЗАЦЫЯ

Пазбаўляючыся ад непажаданых элементаў, летам 1944 Саветы пачынаюць вывозіць беларусаў-"заходнікаў" на ўсесаюзныя будоўлі. Той факт, што рэспубліка сама мела вострую патрэбу ў працоўнай сіле, нікога асабліва не хвалява́ў.

Для ажыццяўлення мабілізацыі пры аблвыканкамах былі створаны адмысловыя бюро, канторы, аддзелы па наборы працоўнай сілы. Дапамагалі ім аддзелы пераналсельніцтва і рэпатрыяцыі аблвыканкамаў ды іншыя структуры.

"Агляд архіўных спраў паказвае, што дэпартацыя мела як унутраны, гэтак і знешні характар: людзей вывозілі на работы ў вобласці, па рэспубліцы і за межы", — распавядае Аляксандр Татаранка.

З нязгоднымі выязджаць на працу ў іншыя рэгіёны савецкая ўлада пагатоў не стала цырымоніцца. Паводле рашэння Баранавіцкага аблвыканкама № 200 "Аб дадатковых мерапрыемствах па мабілізацыі рабочай сілы для чорнай металургіі ў сувязі са зменай тэрміну мабілізацыі" у снежні 1944, "на ўсіх грамадзян, якія злосна ўхіляюцца ад мабілізацыі, неадкладна перадаць матэрыялы для прыцягнення да судовай адказнасці". Гэтаж самае пагражала і "асобам, якія хаваюць дэзерціраў". Бюро па мабілізацыі працоўнай сілы мусілі за суткі выяўляць дэзерціраў ды перадаваць матэрыялы на іх пракурору вобласці.

## П'ЯНЫЯ АГІТАТАРЫ

"Азнаямленне з архіўнымі дакументамі дазваляе сцвярджаць, што заходнія беларусы ўсяляк супраціўляліся гвалтоўнаму вывазу, напрыклад, у Карэлію, — распавядае Аляксандр Татаранка. — Так, з рашэння Баранавіцкага аблвыканкама № 779 ад 25 кастрычніка 1948 г. бачна, што заданні ўрада па наборы рабочых для прамысловасці і будоўляў СССР не выконваліся. План 1 квартала 1948 года выкананы на 65%, 2 квартала — на 66%, а 3 квартала — толькі на 51%".

Цэнтральная ўлада заключае, што такое становішча — вынік слабай арганізацыі масава-тлумачальнай работы сярод насельніцтва. Нягледзячы на тое, што начальнікаў раёнаў абавязалі ўзяць пад асабісты кантроль працу па "адборы і перасяленні сем'яў" ды ўсталявалі жорсткі тэрмін (1 сакавіка 1950), справа слаба рухалася з месца. Як вынік, план перасялення на 1950 год Баранавіцкая вобласць выканала ўсяго на 54%.

На той момант у вобласці шчыравалі 266 сельскіх і 16 раённых арганізатараў мабілізацыі. Аднак для апрацоўкі вяскоўцаў адзін за адным высаджваліся дэсанты партыйных і савецкіх работнікаў, умацаваныя брыгадамі артыстаў. Адзін з такіх дэсантаў складаўся з васьмі прадстаўнікоў міністэрства лясной прамысловасці Карэла-Фінскай ССР на чале з упаўнаважаным урада Воранавым.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЯК "МАБІЛІЗАВАЛІ" ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

Татаранка знайшоў звесткі, што адна з такіх прапагандовых брыгад наведвала Старынскі сельсавет Стаўбцоўскага раёна ажно тройчы. Прычым, паводле рашэння Баранавіцкага аблвыканкама № 620 ад 6 жніўня 1949 года, вяскоўцаў тройчы заганялі ў клуб і кожны раз збіралі з іх грошы за прагляд спектакляў.

Часта гастралёры і агітатары з'яўляліся перад людзьмі ў непрыстойным стане. Гэтак, у студзені 1945 інструктар 4-й часці Гарадзішчанскага РВК лейтэнант Пазон, напіўшыся да страты чалавечага аблічча, спрабаваў заехаць верхам на кані ў памяшканне школы ў вёсцы Моўчадзь, дзе яго шэсць гадзін чакалі людзі (з сакрэтнай справы № 26 Баранавіцкага абласнога ваеннага камісарыята).

## ПРАВАЛ ПЛАНАЎ

Відавочна, што такая агітацыя не надавала беларусам веры ў мабілізацыю. Па стане на 1 ліпеня 1953, з Баранавіцкай вобласці выселена 378 сем'яў (31,5% ад запланаванага), а на 28 верасня план перасялення наогул сарваны (у Мірскім раёне выкананы на 4%, у Быценьскім — на 14%, у Клецкім — на 16%, у Наваградскім — на 17%, у Навамышскім — на 28%, у Ляхавіцкім — на 34%, у Нясвіжскім — на 36%, у Гарадзішчанскім — на 37%, у Слонімскім — на 41%).

"Бачачы нежаданне беларусаў валіць лес на чужыне, савецкая ўлада пачынае дзейнічаць больш жорстка, — кажа Аляксандр Татаранка. — Дублюючы цыркуляр Масквы, Мінск запатрабаваў вывазу ўжо не проста адзіночных рабочых і сем'яў, а цэлых населеных пунктаў. Арганізатараў набору надзялілі надзвычайнымі паўнамоцтвамі, паабяцаўшы ўзнагародзіць "пацарску".

Тады ж старшыня Баранавіцкага аблвыканкама В.Ледзенеў заклікаў актыўна ўжываць супраць нязгодных артыкул 94 КК БССР – "уклонение от трудгужповинности и невыполнение обязательного задания по лесозаготовкам".

Тым часам сельсаветы, імкнучыся выканаць план, пачалі ўносіць у спісы "на вываз" усіх запар. Гэтак, у Наваградскім, Нясвіжскім, Клецкім, Быценьскім раёнах меліся факты, калі да выезду прадстаўлялі няздольныя да фізічнай працы сем'і: старых, інвалідаў без ног і рук...

## СТРАШНЫЯ ЛІЧБЫ

Згодна з хрэстаматыйнымі данымі, з 1947 па 1953 год у выніку рэпрэсіўнай палітыкі Крамля БССР страціла 90 тысяч чалавек.

Паводле падлікаў Аляксандра Татаранкі, па няпоўных даных, з адной толькі Баранавіцкай вобласці ў паваеннае дзесяцігоддзе было вывезена больш за 50 тысяч працоўных. У гэты лік не ўваходзяць знойдзеныя ім звесткі на 836 дэпартаваных сем'яў.

"Сярэдні арыфметычны разлік дазваляе казаць пра тое, што з Баранавіцкай вобласці было вывезена больш за 150 тысяч чалавек. Гэта без Карэліі і, натуральна, без унутранага вывазу. Ён, як вядома, апошні меў сваю спецыфіку: прадпрыемствы і вайсковыя часці, куды прыпісвалі працоўных, у большасці падпарадкоўваліся НКА і НКУС. Яны, у сваю чаргу, здаўшы аб'ект і згарнуўшы работы, пераязджалі да новага месца, — кажа баранавіцкі даследчык. — У Карэлію вывезлі 2441 сям'і (каля 5 тысяч чалавек) і больш за 25 тысяч працоўных".

Па "самых асцярожным падліках" Татаранкі, па Другой сусветнай вайне на працы ў іншыя рэспублікі СССР прымусова выехала блізу 180 тысяч жыхароў Баранавіцкай вобласці, насельніцтва якой налічвала на той момант 609,5 (!) тысячы чалавек. Пры гэтым ён заўважае, што падлік вёўся толькі на падставе адпрацаваных ім дакументаў. Яшчэ сотні архіўных крыніц — пастановы ўрадаў СССР і БССР, пастановы і рашэнні аблвыканкама і абкама партыі, заявы міністэрстваў і ведамстваў — належыць увесці ў навуковы ўжытак. Апроч гэтага, не варта забывацца, што былі яшчэ дзясяткі тысяч ахвяр апошняга вайсковага прызыву, зачыстак НКУС і канцлагераў, пра што мы згадвалі на самым пачатку…

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ**

### АДКРЫТЫ АРХІЎ

**1947**

Из «Плана организованного набора рабочих в 1 квартале 1947 года»:

*«На предприятия Министерства лесной промышленности КФ ССР отправить 600 человек».*

Из решения облисполкома №51 от 31 января 1947 года «Об организованном наборе рабочих для Министерства топливной промышленности Эстонсланцстроя и Министерства лесной промышленности СССР»:

*«Отправить 500 человек в Архангельскую область».*

**1948**

трест Сегеш Бумлес 350 человек;

два дополнительных набора — 350 и 1 000 человек.

**1952**

**март — июнь**

Дополнительный набор в КФ ССР 900 человек.

**июль — август**

Дополнительный набор КФ ССР 600 человек.

Устюглес 1 500 человек,

Комилес — 2 000. Мобилизации не подлежали председатели колхозов и заведующие животноводческих ферм.

**ноябрь — декабрь**

КФ ССР 1 499 рабочих.

переселить 406 семей.



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 22.11.12
Тыраж 299 экзэмпляраў